# Магістрат



Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ і руху БНФ «Адраджэньне»

№10 (13), кастрычнік, 2000 г.

# Сьвяты Язафат

**12 лістапада а 10 гдз. у касцёле сьв. Барбары адбудуцца канцэрт рэлігійнай песьні, юбілейная містэрыя і сьвятая літургія ў гонар сьв. Язафата Кунцэвіча. Запрашаем усіх шчырых беларусаў далучыцца да Высокадастойных Біскупаў.**

Усталяваньне ў Беларусі вуніяцкае веры ішло напачатку пакутліва цяжка. Своеасаблівым сымболем гэтага стаўся шлях полацкага арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча.

Найвядомейшы з полацкіх царкоўных валадароў нарадзіўся ў 1580 годзе ва Ўладзіміры-Валынскім на Ўкраіне ў сям'і выхадцаў зь Беларусі. Пераняўшы ад бацькі любасьць да кніг, ён юнаком прыехаў у Вільню вучыцца на купца, зрабіўся прыхаджанінам вуніяцкай Сьвята-Траецкай царквы і сьпяваў там у хоры. Здольнага пабожнага хлапца заўважыў віленскі мітрапаліт Іпат Пацей. Ён узяў Кунцэвіча ў кляштар паслушнікам і адправіў яго вучыцца ў Віленскую акадэмію. У 1604 годзе, калі Язафат скончыў курс навук, мітрапаліт сам пастрыг яго ў манахі.

Неўзабаве ён стаў гіераманахам, а потым і архімандрытам Сьвята-Траецкага кляштара. У хуткім часе пра Язафата гаварыла ўся Вільня. Вызначаючыся выключным красамоўствам, ён часта прапаведваў проста на вуліцах і плячах, сьмела заходзіў у хаціны рамесьнікаў і ў магнацкія палацы. Ворагі далі яму мянушку «душахват» — лавец душаў. За заслугі перад грэцка-каталіцкаю царквою, ва ўлоньне якой ён перавёў з праваслаўя тысячы віленчукоў, Кунцэвіч быў узьведзены ў біскупскі сан.

У першы прыезд палачане сустрэлі вуніяцкага архігерэя сьвяточным ходам з абразамі, царкоўнымі і цэхавымі харугвамі.

*(працяг на стар. 4)*



*Язафат Кунцэвіч — вуніяцкі арцыбіскуп, забіты 12.11.1623 г. у Віцебску разьюшанымі праціўнікамі вуніі.*



# МАЛАДЫЯ!

Ва ўсім цывілізаваным сьвеце найгалоўнейшай задачай дзяржавы зьяўляецца падтрымка моладзі.Маладыя людзі ў гэтых краінах атрымліваюць прыстойныя стыпэндыі падчас навучаньня,пасьля заканчэньня навучальных установаў маюць магчымасьць атрымаць працу, якая дазваляе жыць у дастатку самому і мець магчымасьць утрымліваць сваю сям'ю. Пры працаўладкаваньні маладыя адразу атрымліваюць жыльлё. Мы з Вамі пазбаўленыя гэтых магчымасьцяў.

Каб зьмяніць гэтае становішча далучайцеся да Маладога Фронту. Пэйджар: аператар 23-00-10, аб. 12067.

Магістрат

**Заснавальнік:**
Віцебская рада
БНФ «Адраджэньне»
**Выдавец:**
Цэнтар моладзевых
ініцыятываў «Контур»
**Галоўны рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Юры Сьцяпанаў
**Дызайн і вёрстка:**
Сяржук Серабро
**Рэдакцыйная рада:**
Ігар Землякоў,
Юры Корбан,
Іван Марозаў,
Міхась Паўлаў,
Канстанцін Смолікаў,
Юры Сьцяпанаў,
Ігар Цішкін,
Васіль Шалухін,
Віктусь Шляхцін

**Тэл./факс рэдакцыі:**
/0212/ 22-06-48
**E-mail:**
kontur@vitebsk.net
**HTTP:**
www.vitebsk.net/kontur

**Друк:**
Віцебскае аддзяленьне
Фонду імя Льва Сапегі

**Наклад:**
299 паасобнікаў

Рэдакцыя знаёміцца з карэспандэнцыяй, не ўступаючы ў перапіску.

Матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня.

# АДЗІН РАДЫ НЕ ДАСІ

Выбары шмат чаму вучаць. Любыя — дэмакратычныя і недэмакратычныя. Усё паўстае ў сваіх рэальных абрысах і маштабах. Зьнікаюць міты. Узяць тую ж партыю лібэральных дэмакратаў. Можна стварыць рэгіянальныя партыйныя структуры, можна выставіць па ўсіх выбарчых акругах сваіх кандыдатаў. Але ці заваюеш гэтым рэальную палітычную вагу? На Полаччыне пад штандары лібэральнай дэмакратыі сталі мэханікі будаўнічага трэсту. Зразумела, тутэйшыя «элдэкі» ня мелі ніякіх шанцаў на посьпех. І міт уплывовасьці ЛДПБ абрынуўся, як падсохлая пясочная вежа.

**ПАЛІТЫКА МАРГІНАЛАЎ**

Ва ўсім сьвеце палітыку ў краіне робяць банкіры, бізнэсоўцы, прамысловая эліта, кіраўнікі розных галінаў улады. У Беларусі ствараецца ўражаньне, што палітыкай займаецца толькі адзін чалавек плюс мэханікі. Ці не таму не атрымліваецца ў Беларусі сапраўднае, уласнае палітычнае жыцьцё?

Гэткія ж праблемы, як у ЛДПБ, маюць усе астатнія беларускія партыі. Спроба залучыць у Аб'яднаную Грамадзянскую Партыю прагрэсыўных кіраўнікоў прадпрыемстваў скончылася няўдачай. Таму сьмешна выглядае, калі кіраўнік апазыцыйнай партыі ў правінцыі сустракаецца па завугольлі са сваімі аднапартыйцамі-маргіналамі, якія ня маюць ніякага ўплыву ў сваім горадзе. У той самы час пра гэтага кіраўніка апазыцыйная прэса піша як пра рэальнага кандыдата на прэзыдэнта.

А стварэньне палітычных мітаў — небясьпечная рэч. Своеасаблівы наркотык, які да непазнавальнасьці скажае рэчаіснасьць. Што застаецца рабіць? Прынамсі, трэба быць рэалістамі. Шукаць расколіны ў сёньняшняй кіраўнічай эліце. Яны даўно ёсьць.

**КЛОПАТ ПРА ДЗЯЦЕЙ**

Расейская палітычная эліта пэрыядычна зьбіраецца разам, каб узьняць келіхі з шампанскім, — або ў Астанкіне, напярэдадні Новага году, або ў Крамлі, з нагоды дзяржаўных сьвятаў. Тут можна пабачыць усіх — ад Зюганава да Чубайса зь Нямцовым, увесь палітычны спэктар за выняткам зусім ужо маргіналаў. Улада ў Расеі належыць эліце. Нават Ампілаў мае каліва ўлады. Выбары, парлямэнцкія й прэзыдэнцкія, толькі нязначна пераразьмяркоўваюць гэтую ўладу. Выбары.— як вялікі пасьянс, карты з палітычнымі лідэрамі калектыўна парадкуюцца на новы палітычны сэзон. Але, якія б вынікі ні прынесьлі выбары, усё адно з расейскага палітычнага Алімпу не прападзе ніводзін Пачынок або Шохін. Усім ім знойдзецца месца.

Зусім іншая справа зь Беларусяй. Улада тут не належыць усёй тутэйшай эліце. І гэта яскрава сьведчыць аб залежнасьці краіны. Палітыка Беларусі не фармуецца выключна з уласных інтарэсаў. Уласныя інтарэсы можа адстойваць толькі ўся эліта разам. У сёньняшніх умовах краіна мусіць прыстасоўвацца да чужых геапалітычных стратэгіяў. Беларусь сёньня ня мае агульнага кіраўніцтва. Лукашэнка толькі імітуе, што ў яго ўсё пад кантролем. Кантроль міліцэйскага гумовага дручка не зьяўляецца эканамічным або палітычным фактарам. Адзін чалавек ня можа замяніць сабой усю эліту. Таму Беларусь ня ёсьць паўнавартаснай незалежнай краінай. Немагчыма ўявіць, каб недзе сабраліся разам хаця б самыя вядомыя беларускія палітыкі: ад Лукашэнкі, Мясьніковіча, Шэймана і Ярмошына — да Пазьняка, Шушкевіча, Чыгіра і Вячоркі.

Гэткая ж гісторыя адбываецца зь беларускімі рэгіянальнымі элітамі. На Полаччыне, бадай, ёсьць усяго тры-чатыры чалавекі, якія разумеюць і адстойваюць уласныя рэгіянальныя інтарэсы. Гэтыя людзі публічна кажуць пра патрэбу аб'яднаньня двух гарадоў — Полацку й Наваполацку, пра зьмяншэньне долі шкоднай хімічнай прамысловасьці, пра перагляд палітыкі разьмеркаваньня даходаў рэгіянальных прадпрыемстваў і г.д. Але ні пра якія вынікі іх дзейнасьці пакуль ня можа быць і мовы, бо большасьць мясцовых кіраўнікоў нагадвае каляніяльных намесьнікаў.

У Полацку, аднак, ёсьць месца, дзе ўся тутэйшая эліта зьбіраецца разам — Полацкая нацыянальная гімназія. Тут вучацца дзеці і кіраўнікоў суполак апазыцыйных партыяў, і гарвыканкамаўскіх работнікаў. На бацькоўскіх сходах уяўныя ворагі сядзяць за аднымі партамі. Клопат пра дзяцей, напэўна, і ёсьць тое агульнае, што здатна аб'яднаць краіну.

*Алесь Аркуш, «Наша ніва».*

# Выбары НОВАГА прэзыдэнта

*Можна ўвесь час падманываць частку народа, можна некатоторы час падманваць увесь народ, але нельга ўвесь час падманваць увесь народ.*

Гэтыя геніяльныя словы зараз як ніколі падыходзяць да становішча, якое склалася ў нашай краіне.У сьвеце мінулых выбараў пануючы рэжым павінен быў зразумець, што ўсе тыя ілжывыя абяцаньні, якія выкарыстоўваліся ім пры правядзеньні мінулых рэферэндумаў, цяпер не ўспрымаюцца большай часткай беларускага народа. На гэты раз людзі не паверылі, што абраная імі палата здолее зьмяніць жыцьцё ў лепшы бок і не праявілі актыўнасьці ў псэўдавыбарах.

Калі раніцай 15 кастрычніка адчыніліся выбарчыя ўчасткі, то па традыцыі першай адправілася вызначаць будучае жыцьцё Беларусі дысцыплінаваная армія пэнсіянераў. Прагаласаваўшы за кандыдатаў і паглядзеўшы на прадукты, якімі гандлявалі на ўчастку, грамадзяне з пачуцьцём выкананага абавязку адправіліся дамоў. З гэтага моманту ў памяшканьнях, дзе праходзіла галасаваньне ўсталявалася сапраўднае зацішша. І тут узнікае пытанне: «А дзе тыя, каму будаваць жыцьцё ў гэтай краіне далей? Дзе будучыня кожнай нацыі — моладзь? Няўжо яна, моладзь, не жадае абраць чалавека, які б працуючы ў заканадаўчым воргане мог паспрыяць паляпшэнню жыцьця?»

Не! Гэта безумоўна не так. Маладыя людзі ўжо даўно чакаюць пераменаў да лепшага. Менавіта сваім нежаданьнем удзельнічаць у падрыхтаваным уладамі спэктаклі яны сказалі, што ня бачаць сярод тых, за каго прапануюць прагаласаваць, людзей, здольных вывесьці краіну з той багны, ў якую зацягнуў яе пануючы рэжым, які і ладзіў для сябе гэтыя выбары. Нездарма моладзевае грамадскае аб'яднаньне «Малады Фронт», якое актыўна ўдзельнічала ў кампаніі «Байкот-2000» і сябры якога неаднаразова затрымліваліся сілавымі структурамі, прыцягваліся да судовых працэсаў, падвяргаліся пагрозе выключэньня з навучальных установаў, назвала дадзеныя выбары — «ВЫРАБАМІ». Падкрэсьліваючы гэтым самым , што ўладныя структуры ў нашай краіне не выбіраюцца народам, а вырабляюцца рэжымам. Сваім няўдзелам у фарсе маладыя заявілі — ГЭТЫЯ ГУЛЬНІ НЕ ДЛЯ НАС!

Але гэта не значыць, што мы і надалей будзем прытрымлівацца такой тактыкі. Хутка надыйдзе 2001 год, а зь ім і выбары НОВАГА прэзыдэнта. Вось тады мы і заявім, што мы не жадаем блукаць разам зь цяперашнім кіраўніцтвам у пошуках мінулага, што мы, моладзь, маем права, якое ніхто ня можа ў нас забраць — гэта права на БУДУЧЫНЮ! Мы прыйдзем на выбарчыя ўчасткі і прагаласуем за таго кандыдата, які павядзе нашую Беларусь у цывілізаваны сьвет, а народ да дабрабыту і павагі. А сёньня мы заяўляем — МОЛАДЗЬ ПАТРАБУЕ ПЕРАМЕНАЎ!

***Віктар Шляхцін,***
***старшыня Віцебскай Рады МГА «Малады Фронт».***

# Крыжы ў Курапатах

Мінула ўжо 12 гадоў з таго часу, калі БНФ упершыню вывеў людзей, каб адзначыць сьвята памяці продкаў — «Дзяды». У 1988 людзі пайшлі ў курапацкі лес, каб ушанаваць памяць бязьвінных ахвяраў камуністычнага рэжыму. Там іх сустрэлі міліцэйскія дубінкі й сьлезацечны газ.

У гэтым годзе 29 кастрычніка каля дзьвюх тысячаў чалавек ішлі ад парку Чалюскінцаў да курапацкага лесу. Удзельнікі памінальнага шэсьця несьлі з сабою вялікія й маленькія крыжы, перавязаныя беларускімі рушнікамі ці бел-чырвона-белымі стужкамі, каб усталяваць крыжы на месцах магілаў.

У саміх Курапатах было ўсталявана каля 20-і крыжоў. Сьвятар Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы правёў малітву, потым іграла дуда, жалобныя й патрыятычныя песьні сьпяваў фальклёрны гурт Ірыны Мазюк.

Курапацкі лес паступова пераўтвараецца ў лес крыжоў. У пачатку 90-х гадоў здавалася, што хутка ў Курапатах будзе пабудаваны мэмарыяльны комплекс. Але да гэтага часу ўлады не зрабілі нічога. Яны спрабуюць даказаць, што ў Курапатах забівала не НКУС — нягледзячы на словы сьведкаў і факты эксгумацыі. Крыжы, якія штогод мусяць зьяўляцца ў Курапатах, стануць мэмарыялам, аўтарам якога будзе сам беларускі народ.



***Жалобнае шэсьце да Курапатаў — месца, дзе сталінскія каты растрэльвалі людзей. 2000 г.***

# Сьвяты Язафат

У 1617 годзе сьвяшчэннаінак Язафат Кунцэвіч прызначаны адзьютарам і сукцэсарам да Гедэона Бролніцкага, арцыбіскупа Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага. Заўважым, што да 1632 года ў дакументах няма вызначэньня «вуніяцкі арцыбіскуп», бо разделу на праваслаўную і вуніяцкую епархіі не было.

Высьвечаны ў 1618 годзе ў сан арцыбіскупа Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага мітрапалітам Кіеўскім і Усяе Русі Язэпам Вельямінам Руцкім з захаваньнем усіх правілаў праваслаўя, Язафат атрымаў ад вялікага князя Жыгімонта III прывілей на падначаленьне сабе ўсіх праваслаўных манастыроў і храмаў у Полацку, Віцебску, Магілеве і Воршы.

У 1619 годзе Жыгімонт III па прозьбе Кунцэвіча дазваляе віцебскім мяшчанам -кормнікам абнавіць заняпалую царкву Прэабражэньня Гасподняга з прыдзелам св. Міколы на пасадзе Узгорскім, і стварыць пры ёй царкоўнае брацтва, якое б падпарадкоўвалася арцыбіскупу Полацкаму, і было б у адзінстве з Рымскай царквою.

У 1620 годзе праз Рэч Паспалітую вяртаўся з Масквы канстантынопальскі патрыярх Феафан. На ўжо занятыя вуніятамі епархіі ён паставіў невуніяцкіх архігіерэяў. Прызначаны архіепіскапам полацкім Мялет Сматрыцкі паводзіўся ня надта разумна. Прыбыўшы ў Віцебск, ён абвясьціў, што адлучае Кунцэвіча ад царквы, і разаслаў па епархіі адпаведныя граматы. Такая чыннасьць не дала аніякага плёну, апрача распальваньня гарачых жарсьцяў.

У 1621 годзе кароль запатрабаваў ад віцебскага ваяводы Януша Кастэвіча спыніць уціск некаторых праваслаўных цэркваў. Арцыбіскуп Кунцэвіч і віцебскія сьвятары скардзіліся, што на царкву Божую Усьпеньня Прэсьвятое Багамацеры з каралеўскіх валасьцей не прыходзяць упрывілеяваныя каралямі падаткі. Ваявода з намесьнікамі адбіраюць рыбу, якая, згодна прывілею, павінна ісьці цэрквам. Таксама з прыхаджанаў бяруць плату за праход праз замкавыя вароты.

Кунцэвіч быў вельмі адданы усходняму абраду, які патрабаваў шмат выдаткаў на царкоўныя справы з боку прыхаджанаў, што не вельмі задавальняла нараджаючыся сярэдні клас. Уладыка не даваў дазволу выкарыстоўваць цэрквы для іншых патрэбаў, не звязаных з рэлігійным жыцьцём, што выклікала такі рашучы выступ віцяблянаў.

12 лістапада 1623 году ўдарылі званы і ўзброены натоўп напаў на арцыбіскупаў дом каля царквы Багародзіцы. Айцец Язафат толькі што адслужыў ютрань. Пачуўшы крыкі, ён выйшаў да людзей і, перахрысьціўшы іх, паспрабаваў угаварыць мірна разысьціся. Але ўсё было марна. Двума ўдарамі бердыша ўладыку расьсеклі галаву. Непрытомнага арцыбіскупа дабілі, а потым «зьдзекваліся над целам, цягалі яго за ногі па двары, сарвалі адзеньне, пакінуўшы ў адной валасяніцы, якую насіў гэты пастыр, білі нябожчыка нагамі па твары, нявечачы яго і пасьля сьмерці». Цела, узяўшы за ногі, скінулі з Прачысьценскае гары, потым адвезлі ў чоўне ўверх па Дзьвіне за горад і там, прывязаўшы да ног і шыі камяні і насыпаўшы каменьня ў валасяніцу, утапілі. Пасля гэтага забойцы разрабавалі арцыбіскупаў дом і адзначылі свой вычын знойдзеным у склепе віном.

Рымскі папа Урбан VIII адгукнуўся на тыя падзеі суровым лістом да Жыгімонта III: «Няхай пракляты будзе той, хто ўтрымае меч свой ад крыві! Няхай герэтыкі адчуюць, што ім няма літасьці». У Віцебск прыехалі судзьдзі на чале зь Львом Сапегам. Горад пазбавілі магдэбурскага права, ратушу разбурылі, а віцебскія званы зьнялі і адправілі на пераплаўваньне. Праз колькі гадоў кароль вярнуў гораду ўсе забраныя правы за перамогу над маскоўцамі. Зь плячэй бунтаўнікоў паляцелі галовы.

Паданьне сьцьвярджае, што ўладыку Язафата знайшлі па снопе сьвятла, якое ішло проста зь Дзьвіны. Цела прывезлі па рацэ ў Полацак і пахавалі ў Сафійскім саборы. Неўзабаве парэшткі дасталі зь зямлі і пасьля ўрачыстага адпяваньня віленскім мітрапалітам паклалі ў срэбную раку.

Праз год пасьля сьмерці, у 1624 годзе, Рым прызнаў айца Язафата блажэнным, а ў 1867-м папа Пій IX абвясьціў яго сьвятым. Мошчы полацкага сьвятога перавезьлі зь Вены, дзе яны тады захоўваліся, у Рым і ў 1963 годзе пахавалі ў галоўным храме каталікоў сьвету — саборы Сьвятога Пятра ў аўтары Базыля Вялікага.

*Крыніцы: Уладзімер Арлоў, Генадзь Сагановіч, «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі»; Міхал Пайлай, «Забойства Іасафата Кунцэвіча».*




*Пячатка закону базыльянаў.*



*Езуіцкі касьцёл у Львове.*

# Пілігрымка на Ўкраіну

**Група віцебскіх грэка-каталікоў наведала Заходнюю Ўкраіну.**

На сваім шляху яны наведалі ўнікальны музэй старажытных украінскіх абразоў ў Сьвята-Успенскай Унеўскай лаўры, музэй драўлянага дойлідзтва у шаўчэнкаўскім гаі месца Львова. Вельмі ўражвае сваёй нязвыклай прыгажосьцю гэты старажытны ґорад, з яго вузкімі брукаванымі вуліцамі, старажытнымі свецкімі будынкамі і вялікай колькасьцю старых і новых культавых пабудоваў і помнікаў.

Асноўнай мэтай паездкі быў удзел у міжнароднай пілігрымцы «За еднасьць царквы», якую арганізавала місіянэрскае аб'яднаньне сьв. Кірыла і Мятодзія, якое месьціцца ва Львове і ў якой разам былі пілігрымы з Беларусі, Расіі, Сэрбіі, Украіны ды іньшых краінаў.

Сьвята праходзіла 13-15 кастрычніка у Крылосе. Невыпадкова гэтае мястэчка было абрана месцам сустрэчы шматлікіх групаў пілігрымаў. Крылос мае багатую гісторыю. Раней там знаходзілася рэзыдэнцыя галіцкіх мітрапалітаў. Вызначаецца Крылос адметнай горкай, дзе знаходзіўся цэнтар летапіснага Галіча, здаўна асьвечаны Божай ласкай. Ва Ўсьпенскай царкве маецца цудатворны абраз «Прачыстай Дзевы Марыі». Цудатворную сілу маюць і францішкавы крыніцы, дзякуючы якім шмат людзей атрымалі збаўленьне.

Праграма сьвята была вельмі разнастайнай: рэлігійныя канцэрты, пропаведзі, працэсіі са сьвятымі тайнамі, дыскусіі для моладзі, дзіцячае сьвята, шэсьце са сьвечкамі да месца зьяўленьня Божай Маці.

Беларускія грэка-каталікі мелі вялікі гонар прасьпяваць «Акафіст да Багародзіцы» на беларускай мове, перад шматлікай аўдыторыяй выканаць «Магутны Божа». У апошні дзень адбылася вялікая архігірэйская літургія, якую правадзілі больш за 20 грэка-каталіцкіх сьвятароў.

Завершылася сьвята сумесным абедам, зацікаўленнай размовай пра лёс вуніяцкай царквы, сьпевамі украінскіх і беларускіх песень. Шчыра падзякаваўшы украінскім сябрам, арганізатарам пілігрымкі, асабліва пану Ёзэфу дэ Вольфу, фундатару і актыўнаму удзельніку, расчуленыя і крыху сумныя, поўныя у душы надзеі і Божай ласкі, яны пакідалі гэты край.

*Наталья Цярэньцева.*



*Усьпенская царква ў Львове.*

# СТРАТЭГІЯ І ТАКТЫКА ПАДЧАС ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ

4 лістапада адбылася Соймавая канфэрэнцыя Партыі БНФ і БНФ «Адраджэньне».Асноўным пытаньнем было абмеркаваньне сцэнару кампаніі па вылучэньню кандыдата ў прэзыдэнты ад аб'яднанай дэмакратычнай апазыцыі. З дакладамі выступілі Юры Хадыка, Віктар Івашкевіч («Прапановы да пляну вылучэньня адзінага кандыдата дэмакратычных сілаў на прэзыдэнцкія выбары»), Алесь Астроўскі («Стратэгія дзейнасьці на бліжэйшы год»), Іван Саверчанка («Крытэры прыдатнага для БНФ адзінага кандыдата»), Уладзімер Кобец («Тэхналёгіі перадвыбарчай кампаніі»), Вінцук Вячорка («Кааліцыйны кантэкст стратэгіі на 2001 год»). Адбылося абмеркаваньне.

Выказваліся розныя прапановы да пляну вылучэньня адзінага кандыдата: зацьвярджаць рэйтынгавы сьпіс кандыдатаў мясцовымі сходамі дэмакратычных сілаў; вылучаць кандыдата на Кангрэсе дэмакратычных сілаў; вылучаць адзінага кандыдата ад апазыцыі на падставе папярэдніх пробных выбараў. Бальшыня выступоўцаў выказалася за шлях кансультацыяў і пагадненьняў, з пазьнейшым зацьверджаньнем кандыдатуры на дэмакратычных форумах.

Гаворачы пра стратэгію дзейнасьці аб'яднанай апазыцыі падчас прэзыдэнцкай кампаніі, старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка зазначыў: «Неабходна мець ня толькі дакладны плян нашых дзеяньняў, але і 30-50 тысячаў чалавек, якія змаглі б сабраць подпісы, працаваць у камісіях, быць назіральнікамі, агітатарамі». Вінцук Вячорка таксама нагадаў, што да адносна дэмакратычных выбараў можа і не дайсьці, і ўзьнікне неабходнасьць бараніць дэмакратычныя пэрспэктывы Беларусі іншым чынам.

Соймавая канфэрэнцыя прыняла некалькі дакумэнтаў: «Крытэры падбору кандыдата ў прэзыдэнты ад аб'яднанай апазыцыі, прымальнага для Партыі БНФ», праект «Пагадненьня аб супольнай дзейнасьці падчас кампаніі па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь».

Былі прынятыя дзьве тэматычныя заявы: у падтрымку акцыі прадпрымальнікаў, якая адбудзецца 23 лістапада і Заява ў абарону незалежных СМІ, якія апынуліся перад пагрозай непраходжаньня прымусовай перарэгістрацыі, распачатай уладамі.

**ПАГАДНЕНЬНЕ**

**аб супольнай дзейнасьці падчас кампаніі па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.**

Мы, лідэры дэмакратычных партыяў, якія выступаюць адзіным блёкам у кампаніі па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, разумеючы, што выбары ёсьць адзіны шлях усталяваньня дэмакратыі на Беларусі, сьведчым, што:

вылучэньне адзінага дэмакратычнага кандыдата ёсьць неабходная перадумова перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах у 2001г.

У сувязі з гэтым:

1. Адзіны дэмакратычны кандыдат павінен гарантаваць фармаваньне сваёй праграмы на прынцыпах:

— першынства незалежнасьці Рэспублікі Беларусь;

— дэмакратызацыі ўсіх сфераў жыцьця грамадзтва;

— правядзеньня свабодных, сумленных парлямэнцкіх выбараў на працягу 3-х месяцаў з моманту прынясеньня прысягі Прэзыдэнтам;

— вызваленьня й рэабілітацыі ўсіх палітзьняволеных;

— аднаўленьне незалежнасьці заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады, а таксама мясцовага самакіраваньня;

— фармаваньня кааліцыйнага ўраду;

— вольнага рынку ў эканамічнай сфэры жыцьця краіны;

— галоснасьці і незалежнасьці СМІ;

— адмены вынікаў антыканстытуцыйных рэфэрэндумаў.

2. Партыі

— гарантуюць усебаковую падтрымку кандыдата ад КРДС;

— арганізуюць агітацыю і збор неабходнай колькасьці подпісаў у падтрымку адзінага кандыдата;

— арганізуюць масавыя акцыі пад эгідай адзінага кандыдата;

— арганізуюць татальны кантроль за выбарамі і іх падрыхтоўкай непасрэдна ў выбарчых камісіях усіх узроўняў;

— абавязуюць сваіх лідарэў і іншых вядомых партыйцаў выступаць у падтрымку адзінага кандыдата;

3. Прэтэндэнты на статус адзінага дэмакратычнага кандыдата на пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад удзельнікаў гэтага пагадненьня бяруць абавязкі выконваць умовы п.1 і падпісваюць яго.

4. Грамадзкія аб'яднаньні, СМІ і прафсаюзы ў выпадку згоды з гэтым пагадненьнем і кандыдатурай адзінага прэтэндэнта ў кандыдаты далучаюцца да гэтага пагадненьня ў поўным аб'ёме.

**КРЫТЭРЫ**

**падбору кандыдата ў прэзыдэнты ад аб'яднанай дэмакратычнай апазыцыі,**

прымальнага для Партыі БНФ

1. Сьветапоглядна-палітычныя характарыстыкі

— Непахісная незалежніцкая пазыцыя

— Дэмакратычныя перакананьні

— Гатоўнасьць да рэформаў

— Дацэньваньне ролі беларускай культурнай умовы

— Свабоднае валоданьне беларускай мовай

2. Асабова-арганізацыйныя характарыстыкі

— Вернасьць дадзенаму слову

— Кіраўніцкі досьвед

— Досьвед працы ў камандзе/кааліцыі

— Неканфліктнасьць, спалучаная зь цьвёрдасьцю ў адстойваньні сваёй пазыцыі

— Адсутнасьць аўтарытарных рысаў

3. Электаральныя характарыстыкі

— Адсутны або мінімальны адмоўны рэйтынг

— Адсутнасьць падставаў для аргаумэнтаванага кампрамэтаваньня

— Прэзэнтабэльны выгляд

— Камунікабэльнасьць

— Здольнасьць уплываць на дзяржаўны апарат

— Аўтарытэт сярод розных (ня толькі культурніцкіх) элітаў

— Прымальнасьць для сталіцы й рэгіёнаў




# Новы газаправод праз Беларусь

**Прадстаўнікі расейскага газавага канцэрна «Газпром» падпісалі пагадненьне аб пракладцы новага газаправода ў Заходнюю Эўропу праз тэрыторыю Беларусі, Польшчы і Славакіі.**

Акрамя «Газпрома», удзельнічаюць нямецкія газавыя кампаніі «Рургаз» і «Вінтэрсхаль», французская «Газ дэ Франс» і італьянская «Снам». Паводле **інфармацыі «Рэйтэр»,** гэтыя кампаніі арганізуюць кансорцыюм для ажыцьцяўленьня праекта, які будзе каштаваць каля 2 мільярдаў даляраў ЗША. Даўжыня праектуемага газаправода — каля 600 кіламетраў, а максымальная магутнасць складзе каля 60 мільярдаў кубічных мэтраў у год.

Кіраўніцтва «Газпрома» яшчэ летась абвясьціла аб намеры будаваць новы газаправод у Заходнюю Эўропу праз Беларусь, абмінаючы тэрыторыю Ўкраіны. Вяхіраў тады заявіў, што гэта было «адзіным адэкватным адказам на несанкцыяваны адбор газу на тэрыторыі Украіны», які, з ягоных словаў, перавышае 100 мільёнаў кубамэтраў штодня. Аднак сёлета 23 ліпеня міністр эканомікі Польшчы Януш Штайнхоф заявіў пасьля сустрэчы з украінскай дэлегацыяй, што ягоная краіна не дасьць дазволу на будаўніцтва новага газаправода, які б мінаў Украіну. Паводле словаў польскага міністра, будаўніцтва такога газаправода было б выгаднае для Польшчы, але нанесла б эканамічную шкоду Ўкраіне, сапсаваўшы добрыя адносіны паміж дзьвюма краінамі.

Сёньняшнія адносіны Польшчы да праекта таксама насьцярожаныя. «Мы хочам быць транзытнай краінай і атрымоўваць выгоды ад нашага геаграфічнага палажэньня, але новая транзытная газавая лінія ня можа быць праведзеная па нашай тэрыторыі бяз нашай згоды», — заявіў 19 кастрычніка прэс-сакратар польскага ўрада Кшыштаф Люфт. Люфт паведаміў, што пакуль урад Польшчы не праводзіў афіцыйных перамоваў з удзельнікамі праекта. Ён сказаў, аднак, што намесьнік міністра эканомікі Польшчы Анджэй Карбоўнік сустракаўся з дэлегацыяй Украіны, але пакуль што не было прынята ніякага рашэньня.

### СЯРОД ЗДАБЫТКАЎ – РУСЫФІКАЦЫЯ

На паседжаньні Полацкага гарвыканкаму разглядаліся праблемы культуры. Існуе дзяржаўная праграма, паводле якой Полацак мусіць стаць культурным і турыстычным цэнтрам. З гэтай нагоды была распрацавана адмысловая праграма «Культура», якая і абмяркоўвалася ў гарвыканкаме. Са спавешчаньнем выступіў загадчык аддзела культуры Віктар Ушак і распавёў пра дасягненьні, якія за апошні год сталіся здабыткам культурных установаў гораду. Так расейскамоўны літаратурны саюз «Полоцкая ветвь», рыхтуе вялікі мастацкі том пад умоўнай назвай «Асьветнікі полацкай зямлі», у які ўвойдуць вершы пра Полацак мясцовых літаратараў, у тым ліку і мэра Полацку Ўладзімера Тачылы. У гэтым праекце веку адмаўляюцца браць удзел толькі сябры Таварыства Вольных Літаратараў. Можа, таму пра іх Віктар Ушак і ня ўзгадваў у сваім дакладзе. Таксама стала вядома, што «Дажынкі-2002» пройдуць у Полацку, і чыноўнікі мясцовага гарвыканкаму ўжо пачалі да іх рыхтавацца.

Прававая рубрыка

## БЯСПЛАТНЫ ПРАЕЗД ДЛЯ ЛІКВІДАТАРАЎ

Закон «Аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» гарантуе ўсім асобам, якія бралі ўдзел у работах у 30-ці кіламетровай зоне ў 1986-1989 гадох (арт.18,19,20) бясплатны праезд у гарадзскім грамадзкім транспарце (акрамя таксовак), а таксама ў прыгарадных цягніках і аўтобусах. Усе ўдзельнікі кампаніі па ліквідацыі наступстваў аварыі езьдзілі бясплатна — да 1 верасьня 1995 года, калі А. Лукашэнка выдаў знакаміты ўказ №349 «Аб упарадкаваньні некаторых ільготаў для асобных катэгорыяў грамадзянаў». Гэты дакумент прыпыніў магчымасьць бясплатнага праезду для ўдзельнікаў ліквідацыі пасьледкаў чарнобыльскага выбуху. Ліквідатараў пачынаюць штрафаваць у транспарце. Задаволеныя кантралёры прад'яўляюць службовыя інструкцыі транспартных ведамстваў аб спыненьні льготаў па згаданых артыкулах.

26 студзеня 1995 года Канстытуцыйны суд прызнаў Указ № 349 у частцы пазбаўленьня ліквідатараў права на бясплатны праезд неадпаведным Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет пастановай № 399-XIII ад 26 чэрвеня 1996 года унёс зьмены у «Закон аб сацыяльнай абароне пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», але артыкулы 18, 19, 20 засталіся без паправак (прэзыдэнцкі ўказ дзейнічаў толькі да моманту разгляду закона парлямэнтам). Гэта азначае, што прадстаўленьне права на бясплатны праезд аднаўляецца.

Юрыдычная сутнасьць наступная: указ № 349 ад 1.09.1995 г. у адпаведнасьці з распараджэньнем № 259рп ад 29.12.1995 і пасьля вынясеньня Пастановы № 399-XIII ад 26.06.1996 г. спыняе сваё дзеяньне. Але ліквідатары паслухмяна працягваюць купляць білеты — ім жа ясна патлумачылі, што льготы адабралі, а пра тое што іх аднавілі, сказаць забыліся, ці хутчэй не захацелі.

Паважаныя удзельнікі работ 1986-1989 г.г. у Чарнобыльскай зоне! Вы маеце цалкам законнае права на бясплатны праезд! Не купляйце білеты на праезд у гарадзкім і прыгарадным транспарце! Не бойцеся адстойваць свае правa, падавайце скаргі на дзеяньні кантралёраў! Мы дапаможам адстаяць Вашыя інтарэсы у судах!

*Віцебскае аддзяленьне праваабарончага цэнтру «ВЯСНА», вул.Герцэна, 10/7. Тэл. 37-36-09.*

### МІНЮСТ ВЫНЕС ПАПЯРЭДЖАНЬНЕ БНФ

Міністэрства юстыцыі вынесла афіцыйнае папярэджаньне БНФ «Адраджэньне». Прычынай папярэджаньня стала ўжываньне на блянку назвы «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне». Чыноўнікі даюць тлумачэньне, што такой арганізацыі не існуе, зарэгістраваны толькі «БНФ «Адраджэньне», у сувязі з чым было парушана дзеючае заканадаўства.

### УЛАДЫ ХІМІЧАЦЬ, А «ХІМІК» НЕ СКАРАЕЦЦА

Пад пагрозай зьнікненьня працуе наваполацкая газэта «Хімік». Гэта адзіная ў горадзе незалежная газэта. Да 2001 года рэдакцыя абавязана прайсьці перарэгістрацыю. Заява была пададзена яшчэ ў траўні, аднак дагэтуль улады яе не разгледзелі. Каб зарэгістравацца, патрэбна рэгістрацыйнае пасьведчаньне на будынак рэдакцыі, а каб атрымаць гэтае пасьведчаньне, трэба мець дзяржаўны акт на права карыстацца зямельным кавалкам, дзе разьмешчаная рэдакцыя. А ўжо гэты дзяржаўны акт выдае гарвыканкам. «Хімік» не атрымоўвае яго ужо на працягу сямі гадоў, пры гэтым увесь час гарвыканкам пагражае рэдакцыі нейкімі санкцыямі. Падобна, што ў гэтай сытуацыі рэдакцыя мае ўсе шансы застацца без будынку, а навапалачане — безь любімай газэты. Аднак рэдакцыя мае намер змагацца за сваю газэту.

### МЕСЯЦ УЛАДЗІМЕРА КАРАТКЕВІЧА

«Скарынінскае брацтва» пры гуманітарна-асьветным цэнтры імя Францішка Скарыны абвясьціла лістапад месяцам Уладзіміра Караткевіча. Да гэтай падзеі фонд беларусістаў падрыхтаваў кнігу «Уладзімір Караткевіч і яго творчасьць у сусьветным літаратурным аспэкце». Кніга складаецца з чатырох частак, якія аб'ядналі матэрыялы навуковай канфэрэнцыі ў Воршы пяцігадовай даўніны і артыкулы сучасных літаратараў, прысьвечаныя знакамітаму пісьменьніку. Выданьне багата аздобленае рэдкімі фотаздымкамі і малюнкамі самаго Караткевіча. Яно стане прадмовай да новай сэрыі «Беларускага кнігазбору» — «Гістарычны раман».

Рыхтуюцца да ўгодкаў Караткевіча і ў Віцебску. У батанічным садзе пасаджана алея з коркавых дрэваў, якой маюць намер даць імя Караткевіча. А вуліцу імя Ўрыцкага, на якой месьціцца батанічны сад, некаторыя жыхары гэтай вуліцы патрабуюць перайменаваць у імя Ўладзіміра Караткевіча.

### ЗЯЛЕНЫЯ Ў ВІЦЕБСКУ

26 кастрычніка Віцебск наведаў актывіст польскага экалягічнага руху Станіслаў Гурка. Зараз ён каардынуе супольны польска-беларускі праект — выданьне часопіса «Зялёны край» (у працяг традыцый «Зялёнага весьніка EcoInform»). Высокі госьць сустрэўся з прадстаўнікамі «Экавіты», ЦМІ «Контур» і Віцебскага аддзяленьня Фонду імя Льва Сапегі. Падчас шматгадзіннай гутаркі з панам Гуркам ў офісе «Контура» была дасягнута дамова аб супрацоўніцтве.

Госьць зь цікавасьцю ўспрыняў бюлетэнь «Зялёны гай» і іншыя выданьні, што выходзяць на тэхнічнай базе «Контура» і са свайго боку падараваў сьвежыя маляўнічыя выпускі вядомага часопіса «Zielone Brygady», які рэдагуе ў Кракаве энтузіяст Анджэй Жвава.

### ЧАРГОВАЯ АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ Ў ВІЦЕБСКУ

28 кастрычніка ў Віцебску ў межах акцыі «Байкот-2000» сябрамі «Маладога Фронту», БНФ «Адраджэньне» і АГП быў праведзены пікет. А 15-й гадзіне ля кінатэатра «Брыганціна» сабраліся каля 30-ці пікетоўцаў. Паводле традыцыі, пікет быў несанкцыянаваны. Аднак на гэты раз абышлося без затрыманьняў. Міліцыянты, якіх было каля дзясятка, уважліва назіралі за акцыяй і старанна фіксавалі ўдзельнікаў на відэакамеру. Пікет працягваўся дзьве гадзіны, за гэты час было распаўсюджана каля 2 тысячаў паасобнікаў газэты «Наша Свабода».

Рэспубліка Беларусь
ВІЦЕБСКІ ГАРАДСКІ
ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
№ 17:33/ ...
210600 г. Віцебск
пр. Леніна, 32

г-ну Грозь С.Н.
проспект Победы, дом 47, кв. 30

Уважаемый г-н Грозь С.Н.!

Отдел транспорта, связи и коммуникаций горисполкома внимательно изучил Вашу жалобу и сообщает, что как только все пассажиры станут законопослушными и без напоминания кондукторов будут оплачивать проезд в общественном транспорте, последние не будут назойливо напоминать им об этом. Давайте каждый будем выполнять свои обязанности и все трения прекратятся (и не только по данному вопросу).

Начальник отдела транспорта, связи и коммуникаций Витебского горисполкома Н.И. Меречко

г-ну Грозь С.Н.
проспект Победы, дом 47, кв. 30

Отдел транспорта, связи и коммуникаций горисполкома внимательно изучил Вашу жалобу и сообщает, что как только все пассажиры станут законопослушными и без напоминания кондукторов будут оплачивать проезд в общественном трантпорте, последние не будут назойливо напоминать им об этом. Давайте каждый будем выполнять свои обязанности и все трения прекратятся(и не только по данному вопросу).

Начальник отдела транспорта, связи и коммуникаций Витебского горисполкома Н. И. Меречко

*Шыкоўны адказ! Увесь аддзел вывучаў скаргу і прыйшоў да высновы, што кожны мусіць выконваць сваю справу(а ня лезьце Вы з вашымі скаргамі!!). Вось гэта стыль! Вось прыклад для пераймання астатнімі аддзеламі гарвыканкама! І ані слоўца пра недахоп рухомага саставу, складанасьці фінансаваньня і дрэннае надвор'е. Прыемна мець справу з прафэсіяналамі. Чакаем працягу.*

***Зацікаўлены пасажыр.***

# БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

**Кожны панядзелак а 19-й гадз.**
**Па адрасу: вул. Герцана, д. 10/7, 3 паверх, каб. 57.**
**Уваход са двара, там дзе шыльда "Учебный пункт".**
**Тэлефон для кантактаў: 22-06-48.**




# Пробуждение

Как известно, «чэсныя» выборы 15 октября в Беларуси с треском провалились и весь цивилизованный мир их не признал. И не надо было быть Нострадамусом, чтобы предсказать, как они будут проходить. И в том, что они пройдут с грубыми нарушениями закона и фальсификациями, сомнений не возникло у подавляющей части населения. Ибо народ уже убедился, что нынешний режим не способен вести честные игры. Честная игра для этой власти — это ни что иное как заведомо проигранная партия.

По этому нарушения начались уже на уровне регистрации кандидатов в депутаты — ни один кандидат от демократической оппозиции до этих «супердемократичных» выборов и близко не был подпущен. А допущены были «правильные» кандидаты, те, которые заранее были выдвинуты сверху. Вообще всё получилось как в лучших традициях сталинско — брежневских времён. Учитывая к тому же на 90% красную окраску этих кандидатов, можно констатировать: «Правильным путем идём товарищи! Назад, в коммунистическое болото». Эти «правильные» кандидаты без всяких ограничений были допущены к СМИ для агитации. И что же мы от них услышали ? А услышали примитивный популизм. С большим вдохновением они говорили о том, что надо всячески улучшать жизнь людей, чтобы наши старики с голодухи не копались в мусорных баках, такие прописные истины, которые вам сейчас скажет любой воспитанник детского сада. Но никто из них не сказал, что все их благие намерения могут осуществится только лишь при одном условии — это полная замена существующего режима, который фактически довёл белорусский народ до нищеты. Поэтому, всем обещаниям этих кандидатов — грош цена. И народ должен знать, что ничего не изменится в их жизни в лучшую сторону и что все эти депутаты — всего лишь статисты в спектакле, которым руководит один режиссёр. Поэтому не удивительно, что всё это вызвало только одну реакцию у народа — глубокое отвращение к проводимому фарсу. Это отвращение проявлялось в массовой неявке на избирательные участки. Нельзя не отметить один очень важный факт, который серьёзно насторожил режим — это то, что наш слишком «памяркоўны» народ наконец-то стал просыпаться от губительной спячки, которая ещё имеет место в сердцах белорусов.

***Член партии БНФ Валерий Павлоцкий.***

**ЗАЯВА Ў ПАДТРЫМКУ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ**

Па рашэньню Каардынацыйнай рады прадпрымальнікаў 23 лістапада 2000 года па ўсёй Беларусі адбудзецца агульнанацыянальны папераджальны страйк прыватных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рынках. Гэтая акцыя выклікана спробаю ўвядзеньня рэжымам Лукашэнкі неабгрунтавана высокіх мытных пошлінаў і падатку. БНФ «Адраджэньне» выказвае сваю маральную падтрымку прыватным прадпрымальнікам, якія змагаюцца за свае канстытуцыйныя правы і заклікае ўсіх грамадзянаў Беларусі з разуменьнем паставіцца да патрэбаў прадпрымальнікаў, бо ў іншым выпадку за своевольства рэжыму давядзецца плаціць усім - прадпрымальнікі вымушаныя будуць закласьці новыя «падаткі» ў цэны сваіх тавараў.

**ЗАЯВА Ў ПАДТРЫМКУ НЕЗАЛЕЖНЫХ СМІ**

Соймавая канфэрэнцыя БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ разглядае пачатую ўладамі кампанію прымусовай перарэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі як чарговую небясьпечную атаку на свабоду слова. Прымусовая перарэгістрацыя супярэчыць Канстытуцыі й заканадаўству Рэспублікі Беларусь і фундамэнтальным правам чалавека, замацаваным у падпісаных нашай краінай міжнародных дакумэнтах.